# Самапомач Гаспадарскі

Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс

Год VII. Вільня, Сьнежань 1938 г. № 12 (86).

*Аб чым піша «Самапомач»:*



Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня (Wilno), Завальная вул. 1.

# Учора, сягоньня і заўтра

Даводзім да канца ўжо сёмы гадавік нашае „Самапомачы“. Кожны з іх гэта замкнёная ў сабе цэласьць, гэта люстра жыцьця беларускае вёскі ў Польскай рэспубліцы. Люстра гэта раз ясьнейшае, іншы раз цямнейшае, заўсяды аднак верна адбівае ў сабе тое, што сапраўды было, што ёсьць цяпер. А на будучыню хоча быць тым, чым была дагэтуль: праваднiком земляробскае беларускае вёскі **да фахова земляробскага ўсьведамленьня, да дабрабыту.**

* * *

Гэту мэту маючы на ўвеце і поўнасьцю ацэньваючы значэньне роднага друкаванага слова мы далучаемся да кіненага ўжо клічу аб арганізаваньні ў міжчасе ад 15-га сьнежня 1938 г. да 15-га студня 1939 г. **„Месяца беларускае прэсы“.** Прыймаючы пад увагу варункі сучаснага беларускага жыцьця мы цалком сьведамы таго, як цяжка сягоньня сарганізаваць хоць-бы найзвычайнейшую аб гэткім „Месяцы“ лекцыю. Тым ня менш кожны сьведамы беларус хай пастараецца сярод сваіх суседзяў і знаёмых пашырыць сьведамасьць патрэбы беларускага друку. Адносіцца гэта да ўсіх, а асабліва да тых, што ў пісьмах сваіх так часта заяўляюць, што яны вельмі ахвотна ўспамаглі-б беларускую прэсу, ды нажаль ня маюць чым. Вот-жа гэтыя якраз людзі могуць цяпер паказаць, што патрапяць: ня маюць грошаў, дык хай кожны на сваё месца **здабудзе прынамся двух платных падпішчыкаў на цэлы год.** Гэта даступна кожнаму.

* * *

Кожны часапіс а так-жа кніжка ёсьць маемасьцю агульна-народнай, а кожны народ мае прэсу і кніжку такую, на якую заслужыў. Што прэса беларуская ў нас сяньня так бедная, гэта віна аднак ня самых толькі беларусаў. Але й тут ад самых чытачоў шмат што залежа. Маем на ўвеце супрацоўніцтва з часапісам самых чытачоў. На рэдакцыю і адміністрацыю часапісу ўсяе працы і адказнасьці ўскладаць ня можна, Да абавязку супрацоўніцтва павінны пачувацца ўсе чытачы. Сягоньня мала самому толькі чытаць і нават рэгулярна аплачваць часапіс, сягоньня кожны павінен шукаць да гэтае самае працы людзей новых. Гэтак будуецца сіла часапісу і тых ідэалаў, якім ён служа.

* * *

З гэтымі думкамі і з гэтымі пажаданьнямі зачыняем наш сёмы гадавік. Зьмест гэтага гадавіка пададзены пры канцы гэтага нумару. Жаданьнем нашым ёсьць, каб восьмы і наступныя гадавікі былі зьместам яшчэ абшырнейшыя, а тым самым і карысьнейшыя.

*ЧЫТАЧЫ І ПАДПІШЧЫКІ!*

*Памажэце нам зьбіраць новых чытачоў! Гадавая падпіска за 1 экзэмпляр з перасылкай — 3 зл., за 5 экзэмпляраў — 10 зл., а 10 экз. — 15 зл. Грошы прысылайце так, як паказана на апошняй бачыне часапісу ўнізе.*

# Земляробства на трэцім месцы

На новаадчыненай звычайнай сэсіі Сойму 9 г. м. віцэ-прэм ер і міністр фінансаў Квяткоўскі многа гаварыў аб сваіх плянах гаспадарскіх. Прадбача ён 15-цігодку падзеленую на пяць трыгодак. Земляробству адводзіцца ў гэтым пляне аж трэцяя трыгодка, якая трывала-б у міжчасе каля 1945—1947 г.г. Гэта трыгодка між інш. мела-б за заданьне ўвясьці ў земляробства вытворчасьць машыновую. — У першую-ж чаргу гаспадарскі плян міністра Квяткоўскага прадбача разбудову г. зв. абароннага потэнцыялу: промыслу ваеннага, жалеза, сталі, лёгкіх мэталяў, усяго промыслу мэханічнага: загушчэньне сеткі чыгуначнай і ўзросту ліку мэханічных фурманак (аўтамабіляў). У другую чаргу зарахаваны ўсе справы комунікацыйныя: будова чыгунак, мастоў, дарогаў бітых, водных, каналаў і ўсё іншае, што ўспамагае сілу ваенную. Уся-ж 15-цігодка мае за заданьне ўаднастайненьне(?) структуры і дынамікі гаспадарчай.

Ува ўсім гэтым пляне выдатнае месца займае загушчэньне чыгуначнай сеткі. Мае гэта свае прычыны ня толькі ў тым, што густая сетка чыгункі ўспамагае ваенную сілу краю, ажыўляе ў ім гаспадарскае і культурнае жыцьцё, але сяньня ў Польшчы мае і тое спэцыяльнае значэньне, што зьяўляецца канешнасьцю з увагі на адабраныя ад Чэхаславаччыны абшары Сьлёнска з-за Ользы. На гэных абшарах знаходзіцца вельмі шмат дарагога каменнага вугля і вырабляецца вельмі многа жалеза і сталі. Усё гэта мела шырокі збыт у моцна разьвітым промысьле чэскім. Сягоньня-ж гэты рынак для сьлёнскага вугля і жалеза так як і зачыніўся. Таму Польшч мусіць цяпер будаваць рынак свой уласны: будаваць чыгункі, якія прынялі-б штогоднія лішкі жалеза і вугля. А гэтыя лішкі не малыя, бо адны толькі жалезныя заводы ў сьлёнскім Тшынцы ў год даюць больш 87 прац. таго, што вырабляюць усе жалезныя заводы ў Польшчы ўзятыя разам. Тое самае і з вуглём.

# Abrablańnie ziamli prad čatyrysta hadami

*(Pavodle referatu M. Piaciukieviča pračytanaha ŭ Vilenskim Radio dnia 11.XII.1938).*

Kultura pasuvajecca napierad i pieramianiaje žyćcio ludzkoje nia tak chutka, jak nam zdajecca, prynamsia ŭ niekatorych halinach. Sialanstva naša praz całaje blizu stahodździe XIX i na pačatku XX abrablała ziamlu prymityŭnaj snaściu, jak: sacha, dzieraŭlany płuh, radła i dzieraŭlanaja barana. Usiakija palepšańni sposabaŭ abrablańnia ziamli pačatak svoj majuć u sezonnaj emihracyi miascovaha nasielnictva u krai, dzie kultura ziemlarobskaja staić vyžej.

Jakija-ž heta prykmiety prymityŭnaj haspadarki? Praf. K. Mušynski adkazvaje na heta pytańnie tak: Asnaŭnymi prastarymi typami ziemlarobskaj haspadarki na ziemlach słavianskich źjaŭlajucca: aharodnictva (nie sadoŭnictva), adnapolnaja haspadarka ściapova-lasnaja. Trypaloŭka da siahońnia stasavanaja ŭ niekatorych nieskomasavanych siołach źjaŭlajecca zdabyčaj časaŭ paźniejšych. Zdabyčaj apošnich časaŭ źjaŭlajecca sievazvarot.

Aharodnictvam u nas zajmajucca pieravažna žančyny. Usio abrablańnie ziamli pad aharody zvodzicca da mechaničnaj pierarobki i ŭhnajeńnia niŭki praznačanaj pad aharod.

Haspadarka adnapolnaja była pašyrana ŭ samym zarańni našaje historyi; heta najprymityŭniejšy typ haspadarki. Pry hetkaj haspadarcy pole syskanaje spad lesu užytkujecca kolki hadoŭ, a paśla ŭznoŭ zapuskajecca pad les. Kab vyčyścić pole ad lesu, les hety vypalvaŭsia. Haspadarka lesnaja dvupolnaja była postupam u paraŭnańni z haspadarkaj adnapolnaj; padčas kali adno pole užytkoŭvujecca, druhoje adpačyvaje. Hety typ haspadarki da niadaŭna jšče možna było sustreć na Paleśsi i ŭ Vilenščynie. Kab vypalić les pad pole, stasujecca hetak zvanaja žarovaja technika cierabiežu. Ab hetaj technicy staryja ludzi apaviadajuć he

# Кампост для агародаў

Па сёлах здалёку ад гарадоў можна гадаваць агародніну толькі на сваю хатнюю патрэбу і вельмі мала што на продаж. Вялікія прамысловыя агароды тут засноўваць ня можна, бо няма ўдоваль патрэбнага гною, якога і ў агароды і ў інспэкты трэба вельмі шмат. Дзеля таго што хляўнога гною ў нас звычайна не хапае на самае толькі поле, дык прыходзіцца памагаць сабе кампостамі.

А кампост (перагноеная зямля) ёсьць вельмі цэнным матар'ялам у агародзе. Кампост ёсьць мешанкай рознародных матар'ялаў, у каторых знаходзяцца пажыўныя складнікі для расьліны. У кожным хляве, у панадворку і ў агародзе знайдзем даволі матар'ялу для прыгатаваньня кампосту. Ужываецца да гэтага попел, сьмяцьцё, сажа, пабітыя косьці, кухонныя адпадкі, кроў з бойняў, ячменная мякіна, астаткі пашы, усякае пустазельле (толькі без насеньня), вапняны груз, старая гліна, шэрсьць, людзкі кал і моч, гной птушыны, паскробкі з бітых дарогаў, рынкаў, панадворкаў, мул (гразь) з сажалак і ставоў, асабліва калі ён перамешаны з нягашанай вапнай, урэшце апаўшае з дрэваў лісьцё, і шмат-шмат чаго іншага, што само адно ў гаспадарцы дарма марнуецца і што зложанае ў кампост можа даць вельмі вялікую карысьць.

Кампост тым адзначаецца, што складаецца ён вельмі павольна і малымі порцыямі. Але праз год назьбіраецца гэтага вельмі шмат... Складаць кампост трэба ў цяні між дрэваў і наагул у мясцох заслоненых ад сонца. Блізка кампосту такога ў зямлю ўкопываецца бочка, у якую ўліваецца ўсякая цеча празначаная да заліваньня сухой масы кампосту На адным месцы слаямі (пластамі) ўкладаецца матар'ял на кампост, уважаючы пры гэтым, каб у кампостнай мешаніне была значная часьць зямлі, бо зямля стрымлівае ў сабе ўсе вытвараныя газы і гэтым зьменшывае той няпрыемны запах, які шырыцца навакол кампостнай кучы. Куча гэта заўсёды павінна быць вогкай, каб сабраныя ў ёй матар'ялы хутчэй перагнівалі, але не перагарывалі на попел. Кампостную кучу можна паліваць гнойнай жыжкай

---

tak: staryja vysokija drevy vyrublivalisia i na miescy sochli i paśla tolki palilisia. Usio dreva i z kareńniem hetak na miescy pieramianiałasia na popieł, jaki i byŭ dobrym uhnajeńniem. U našy časy hetaj techniki ŭžo nie stasujuć, bo aščadžajuć dreva. Zatoje ahulna stasujecca technika karčavańnia, razam z vypalvańniem zrubanych pnioŭ

Dziela aznačeńnia pola vyrablenaha spad lesu užyvalisia try słovy: pasieki, naviny i lady.

Najvažniejšaj snaściu ŭžyvanaj ad viakoŭ da karčavańnia lasoŭ, naturalna, była siakiera. Paradak pryhatavańnia pola spad lesu byŭ hetki. Ad św. Piatra da Aspažy vyrubyvali lasy i zarośli. Hetak vycierablenyja lasy i zarośli nazyvalisia lady. Kali les byŭ husty, dyk zaściłaŭsia sałomaj i tak astavaŭsia na zimu. Viasnoj-ža, pa Vialikadni, kali nastanie suchaja sonieśnaja pahoda, hety pavał padpalvaŭsia i zharaŭ na popieł. Na hetaj pierapalenaj i niavyrablenaj hlebie, pa vyčyšćeńni ad niedapałkaŭ, adrazu siejuć pšanicu, zavoryvajuć i zabaranoŭvujuć.

Padarožnik Kvagnin z 16-ha stahodździa kaža, što hetak było ŭ Biełarusaŭ (u arychinale—Rusinoŭ). Litoŭcy aruć ziamlu dvuma vałami, a Biełarusy — koniami. Kvagnin ćvierdzić, što na ladach byŭ taki vialiki ŭradžaj, što niepadobna jaho słavami apisać. I heta tady, kali takoje pole (lada) praz 6—8 hadoŭ było niahnojena. Toj-ža Kvagnin apisvaje jašče i druhi sposab zasiejvańnia žyta: u miešancy adnej čaści žyta z dźviumia čaściami jačmieniu. Miešanka heta siejełasia viasnoj. Jačmień daśpieły žbirajecca, a zialonaja ruń žyta astajecca na zimu. Na druhoje leta žyta stanoviłasia vielmi vialikaje i hustoje, z adnaho ziarniaci vyrastała bolš 30 kałasoŭ. Pry hetym žyta takoje było tak vialikim, što z jaho nia vidać było čałavieka siedziačaha na kani.

Vymałačanaje zboža pierachoŭvali našy prodki ŭ śvirnach, a niavymałačanaje — ŭ stahoch; takich stahoŭ było ad 40 da 60, a zboža ŭ ich lažała da 15 hadoŭ. — Zbažovyja zapasy ŭ časie vajny zakopyvałasia ŭ ziamlu.

(мачой), памыямі, а калі-б усяго гэтага не хапала, дык нават і чыстаю вадою.

Калі кампостная куча дасягне ўвышкі да двух мэтраў, дык тады яе трэба перакапаць (перакінуць) рыдлёўкай ці віламі, раскідваючы ўсё роўным пластом і паліваючы гнойнай жыжкай. Гэтак перасыпаны кампост па двух гадох становіцца поўнавартасным гноем на сенажаці (пожні), полі і ў агародзе. Калі мова аб агародзе, дык кампостам можна тут гнаіць пад рассаднік, градкі пад варыва, так жа пад пладовыя дрэвы і кусты. Агароднікі выкарыстываюць кампостную зямлю ў інспэктах (парнікох).

Цяпер набліжаецца зіма, ёсьць больш часу да перакладаньня кампосту і перасыпаньня іх вапнай. Мае гэта вялікае значэньне ня толькі дзеля выгнаеньня поля, але і дзеля выгубленьня шкоднікаў, якія ў міжчасе зьбіраюцца ў кампосьце.

Словам, кампост у гаспадарцы гэта пэўны ступень да дабрабыту. Таму кожны павінен пільна зьбіраць усе вышэй названыя матар'ялы, якія прыгодны дзеля прыгатаваньня кампосту. За колькі год з агароду пагноенага кампостам можна мець добры ўраджай агародніны як для свае патрэбы ў хаце, так і дзеля продажы.

# Запусканьне кароў

Земляробы часта зусім не зьвяртаюць увагі на канечнасьць запусканьня (засушываньня) кароў прад ацяленьнем. Дзеля таго што шмат кароў пры адпаведным корме можна даіць аж да самага ацяленьня, чалавек карыстае з гэтага колькі ўдасца і не дае арганізму каровы адпачынку праз цэлы год; думае пры гэтым, што надое больш малака. На пагляд гэта справа выглядае быццам і слушнай, бо карова доеная бязупынна доіцца праз 365 дзён у год, тады як карова засушаная доіцца ў год толькі праз 300 дзён. Чалавек аднак малака гэтага, звычайна, ані важыць ані мерыць і таму ня ведае, колькі меў-бы яго ў кожным асобным выпадку. Калі-б хто гэты труд аднак сабе задаў, то перакана́ўся-б, што карова запушчаная, у міжчасе ад ацяленьня да чарговага запусканьня, дае на 20, а нават і на 30 працэнтаў больш малака, чымся такая-ж карова незапусканая, доеная без перарыву.

Чаму так ёсьць? Кожны разумее, што карова цельная мусіць ня толькі даваць малако, але і карміць ношанае цялё. Гэта знача, што ейны арганізм мусіць вытвараць матар'ялу будаўлянага значна больш, чым тады, калі карова цельнай ня ёсьць. Не паможа тут найсыцейшы корм, бо страватраўныя ворганы каровы могуць выканаць толькі агранічаную працу і ня можна выма-

# Hadoŭla koniaŭ u Savieckaj Biełarusi

Hadoŭla koniaŭ u Savietach nie apłačvajecca, bo da haspadarskich rabot užyvajecca tam traktar: koń ža śpichajecca na plan apošni Arhanizavańnie pry kałhasach hadaŭlanych fermaŭ idzie dahetul vielmi ćviorda. Na 10.000 skolektyvizavanych haspadarak u Savieckaj Biełarusi sarhanizavana tolki 332 fermy. Z ahulnaha liku koniaŭ 700.000, tolki 16.800 koniaŭ naležać da hadaŭlanych fermaŭ. Charakterna, što vialiki ŭbytak hadoŭli koniaŭ na całym abšary Biełarusi Savieckaj zanotavany paśla acharonnaha ščapleńnia, nakazanaha kamisaryjatam ziemlarobstva. Akazałasia pry hetym, što ščapionki mieli ŭ sabie bakteryi nieuadpornienyja; ab hetym byccam viedaŭ viciebski veterynarny Instytut, jaki hetyja ščapionki pryhatoŭvaŭ i vydaŭ da ŭžytku. Ab niapryhodnaści hetaje ščapionki viedaŭ byccam i narodny kamisaryjat ziemlarobstva. Ad hetkaha ščapieńnia padochła vielmi šmat koniaŭ.

Inšym sposabam „škodnictva" ŭ kaniehadoŭli jość niezabiaśpiečańnie patrebnaha na zimu kormu. Ad hetaha hinuła štohod mnoha ŭsiakaha inventara, u hetym šmat koniaŭ.

Dla šmat kolektyŭnych haspadarak apracavany byli dakładnyja haspadarskija plany, jakija adnak z pryčyny niastačy siaŭbovaha nasieńnia nia možna było vykanać. Tak napr. u kałhasie „Dziaržynski" u 1936 h. rachavali absiejać kaniušynaj 60 ha, a z pryčyny niastačy siaŭby

гаць ад іх працы надмернай. Калі чалавек нармальны бяз большага труду можа падняць 100 кілёграмаў збожа, дык гэта зусім яшчэ ня знача, што калі яго карміць сыцей, дык ён будзе магчы падняць напр. 500 кілёграмаў. Як агранічаны сілы людзкія, так і жывёла ня можа выканаць тае працы, якая перавышае ейныя сілы. Бязупынная праца каровы пры выдзяляньні малака праз круглы год, адбірае сілы, малакагонныя залозы мучацца. Кожны жывы арганізм патрабуе адпачынку. Нават машына ня можа працаваць вечна. Чалавек адпачывае ў нядзелю і ў сьвята, калі ня лічыць штодзеннага адпачынку падчас сну. Для дойнай каровы такім адпачынкам ёсьць час запусканьня (засушаньня) прад ацяленьнем. Незапушчаная карова хутка траціць сілы, дае менш малака, цяляты родзяцца слабыя, хваравітыя, мала разьвітыя.

Многаразовыя і адумысловыя досьледы ў гэтым кірунку пацьвердзілі, што запусканьне каровы прад цяленьнем ёсьць справай канешнай і трываць павінна прынамся 60 дзён (два месяцы). У практыцы час гэты не заўсяды захоўвуецца што да аднаго дня; звычайна карову пераставаць даіць найлепш за 7 і найбольш за 11 тыдняў прад ацяленьнем.

Ня трудна вытлумачыць, чаму незапусканая карова дае менш малака Доючы карову бяз упынку да самага ацяленьня, чалавек змушае да надмернай працы, бо ў гэту-ж пару якраз сільна разьвіваецца цялё, якое так-жа патрабуе шмат корму. А дзеля таго, што ў пашы звычайна няма таго матар'ялу, з якога будуецца арганізм цяляці, дык карова — матка змушана бывае на гэта аддаваць часьць сваіх собскіх запасаў і таму раптоўна худзее і слабее. У часе цяленьня такая карова бывае сільна вычэрпана. Зразумелая рэч, што гэткая карова шмат малака даць ня можа. Пачне яна прыходзіць да сябе толькі па двух месяцах. Але ў гэту пару час найбольшай малочнасьці ўжо прайшоў, сама карова звычайна ўжо ўзноў сталася цельнай. Такім чынам карова незапушчаная ніколі ня мае часу на адпачынак, а без адпачынку ня можа ані даваць удоваль малака, ані радзіць і тым-больш гадаваць добрых, здаровых цялят. Урэшце жывёла неадпачыўшая слабее на сілах і лёгка паддаецца ўсякім хваробам, а захварэўшы— вельмі часта ўжо не выздараўлівае.

Усё гэта прыняўшы пад увагу, кожны, хто хоча мець шмат малака і здаровыя, сільныя цяляты, павінен бязумоўна сваю карову прынамся на 7—9 тыдняў запусьціць (засушыць). Запускаць трэба нават тыя, т. зв. „добрыя" каровы, якія самі перастаць даіцца ніяк ня могуць: гэткія каровы трэба да засушэньня прымусіць, даючы ім праз колькі ці колькінаццаць дзён скупыя порцыі пашы.

З. К.

---

absiejali tolki paŭtara ha. U kałhasie „Čyrvony bajevik" zamiest pradbačanych 50 ha absiejena tolki 2 ha, u kałhasie „Sierp i mołat" pradbačyli 43 ha, absiejali tolki 3 ha. U inšych miascoch sprava pradstaŭlałasia jšče horš; z pryčyny absolutnaje niastačy siaŭbovaha nasieńnia nia možna było viasnoj zusim pačać raboty ŭ poli.

Taksama katastrafalna pradstaŭlajecca sprava vykarystańnia sienažaciaŭ i paśbiščaŭ. U kałhasie „Artyleryst" na 40.8 ha praz całaje leta paśviłasia skacina, sienažaciaŭ susim nie kasili. U kałhasie im. Jahorava z 105 ha sienažaciaŭ skošana było tolki 5 ha, na reščie 100 ha praz całaje leta paśviłasia skacina. U kałhasie „Pieramoha" na 96.7 ha taksama paśviłasia skacina, siena nie kasili. Pry hetkim stanie koni na viasnu 1937 h. byli zhaładałyja i zusim niazdolnyja da vykonyvańnia choć-by najlahčejšaj pracy.

Jość i takija haspadarki, dzie ŭžo pa skančeńni vosienskaj pracy nie chapiła pašy, a astatki siena marnavalisia. U kałhasie „Novy byt" zootechnik Kavalenka na voka acaniŭ stoh siena na 96 pudoŭ, a sapraŭdy ŭ im było 900 pudoŭ. Kab rachunki zhadžalisia, „nadvyžka" siena skormlivałasia ŭ pryśpiešanym paradku. U adnym z kałhasaŭ Aršanskaha pavietu zhrupavana 80 koniaŭ, 175 karoŭ, 80 śviniej i 75 aviec. Da prakarmleńnia hetkaj ličby inventara praznačana było tolki 18 ha sienažaci i inventar, naturalna, haładaŭ. I naadvarot, u kałhasach z vialikimi abšarami sienažaciaŭ nie padumali sarhanizavać hadaŭlanych fermaŭ.

Cikava taksama pradstaŭlajecca budavańnie novych i remont starych haspa-

# Недастаткі малака

Часта каму здараецца бачыць а нават мець малако ўсяляк зьмененае, напрыклад у колеры, смаку, зьмястоўнасьці і г. п. Малако можа быць вадзяністае, хутка ськісацца, ня зьбівацца на масла, быць сьлізкім, крывавым, чырвоным ці жоўтым, сінім, горкім ці тухлым. У вочы найскарэй кідаюцца зьмены малака ў колеры

**Вадзяністае малако.** Вадзяністае малако мае ў сабе за мала казэіны і туку. Гэткае малако даюць звычайна каровы кормленыя вадзяністай, малазьмястоўнай пашай.

**Нератоўшчанае малако** — трапляецца радзей, выклікае нястраўнасьць у цялят. Дадаўшы такім каровам зялёнай пашы, бульбы, буракоў можна гэты недастатак малака направіць.

**Хуткае ськісаньне малака.** Найчасьцейшым недастаткам малака ёсьць хуткае ськісаньне ці зварываньне. Прычынаў гэтага можа быць шмат. Неправетраны хлеў, нячыстая цадзілка, дайніца і наагул нячыстае абходжаньне з малаком. Таксама прычынай хуткага ськісаньня малака можа быць хвароба каровінага вым'я, нявыдойваньне каровы да чыста ды благое траўленьне. Як толькі гэтыя недастаткі ў трыманьні і дагляндзе каровы паправяцца, напраўляецца і само малако. Часам, каб утрымаць малако ад прадчаснага ськісаньня, на 1 літр малака дадаецца палавіна грама чыстай соды або чэцьверць грама саліцылёвага квасу; гэткае малако аднак да пераробкі не надаецца. Найлепшым натуральным спосабам дзеля ўстрыманьня малака ад прадчаснага ськісаньня ёсьць чыстае ўтрыманьне малака і кароў.

**Малако ня зьбіваецца на масла.** Падобнае зьявішча так-жа можа паўстаць з некалькіх прычын, як зьбіраньне з малака сьмятаны, неўласьцівая гадоўля, хворасьць органаў траўленьня, а таксама негыгіенічнае ўтрыманьне начыньня, масла-бойкаў. Працэс траўленьня папраўляецца дадаткам 1—2 лыжак солі на вядро. Каб прысьпяшыць зьбіваньне малака дадаюпь крыху кіслай сьмятаны, узімку б'юць у памешканьні цёплым, а ўлетку — ў сьцюдзёным.

**Цягучае і сьлізістае малако** гэта рэзультат неўласьціваӣ фэрмэнтацыі занячышчанага малака, асабліва ўлетку, у нячыстых хлявох. Малако, занячышчанае бактэрыямі, трациць свой складнік— цукар, ня ськівае, не даецца перарабіць на масла і мае тухлы запах У такіх выпадках найлепшым лекам ёсьць чыстата.

**Крывавы колер малака.** Паўстае ён з дамешкі крыві, якая выдзяляецца з параненага вым'я. Чырвонае малако

---

darak. U adnym tolki Viciebskim paviecie pačali budavać 70 novych objektaŭ, u hetaj ličbie 20 stajniaŭ. Da siahońnia budynki hetyja stajać niavykančanyja, bo dyrekcyja lasoŭ vydała nia cełuju pałavinu budaŭlanaha matarjału. Vystaŭlenyja budynki tymčasam niščejuć i niaviedama ci naahuł kali-niebudź buduć vykančanyja. Budujucca budynki inšyja, pradbačanyja ŭ planie, ale pierš pačatych—nie kančajuć. U rezultacie napr. u kałhasie im. Stalina užo treci hod staić stajnia biez strachi i biaz stoli, koni zimujuć na adkrytym pavietry. U kałhasie „Čyrvony bajevik“ taksama prymieščany byli koni ŭ stajniach biez strachi; u 1936-37 h. pała tam 19 koniaŭ.

U kałhasie „Prahres“ Žłobinskaha pavietu rabotnika Pakidku abvinavačvajuć u tym, što zamučyŭ na śmierć 13 najlepšych koniaŭ. U 1937 h. u tym-ža kałhasie pała 6 koniaŭ, u tej ličbie cennaja raspłodnaja kabyła, jakaja ŭtapiłasia ŭ bałocie. U kałhasie „Zara,“ Kaściukovickaha pavietu za adzin tolki hod paŭ 51 koń. Tam-ža na žarobnych kabyłach vazili dreva z lesu, ad čaho ŭsie kabyły paškidali i pazdychali. Urešcie ŭ kałhasie im. X Źjezdu delehataŭ bielaruskaj respubliki pała 10 koniaŭ. Staršynia kałhasu, niejki Kraviec, złamaŭ kaniu nahu i kania dabili. Staršynia hety nia byŭ karany. U tym-ža kałhasie rabotnik P. Novikaŭ utapiŭ raspłodnaha žarabca ŭ bałocie.

Hetulki sumnych dataŭ ab hadoŭli kania padaje sama savieckaja presa. Možna dumać, što i inšyja haliny haspadarki stajać tam nia lepš. Marnujecca narodnaje dabro. *(„Życie Roln.“)*

# Зьмест Беларускага Сялянскага Календара на 1939 год.




Гэтак выглядае Беларускі Сялянскі Календар на 1939 г.

Жадайце ўсюды выразна: „Беларускі Сялянскі Календар“!

даюць так-жа каровы хворыя на малярыю. Калі прычына чырвонасьці малака толькі ў тым, што зранена вым'я, дык хопіць хатняга лячэньня; даваць у нутро парашок з дубовай кары і зьмяншаць нормы задаванай пашы. У выпадку малярыі трэба зьвярнуцца да лекара.

**Чырвоны і жоўты колер** малака робяць бактэрыі, якія размнажаюцца ў сьмятане ў форме чырвоных або жоўтых плямак. Чырвоны колер гэта прадукт бактэрыяў *Bacillus prodigiosus, Sarcina rosea*, жоўты колер паходзіць ад бактэрыяў *Bacillus Syxantus*. Працідзеяць гэтым колёровым зьменам у малацэ можна толькі ўтрыманьнем як найбольшай чыстаты. Сьцены хлява трэба выбяліць вапнай, а ўсе пасудзіны да малака вымыць гарачай вадой з дадаткам 5 да 10 прац. соды. Прад даеньнем трэба вымыць вым'я чыстай вадой, выцерці на суха й даіць чыстым даланём.

**Сіняе малако** атрымоўвуе свой колер ад *Bacterium syncyoneum*. Гэта бактэрыя жыве толькі ў малацэ салодкім.

**Горкае малако** бывае рэзультатам горкае пашы, а так-жа пэптонізуючыя дробнатворы з сена, бульбы і г. д. Горкі смак надае малаку таксама віка (у вялікай порцыі), лубін. Няпрыемны смак малака і ад каровы кормленай вотрубамі занячышчанымі кукалем і спарышом. Урэшце благі смак мае малако кароў кормленых надмерна бурачанымі лістамі і самымі буракамі, асабліва тады, калі гэта паша давяла самую карову да нястраўнасьці.

Пры канцы трэба йшчэ раз прыпомніць аб канешнасьці захаваньня ў хляве і пры малацэ найбошай чыстаты. Адносіцца гэта да начыньня, да чыстаты рук і вопраткі чалавека, які займаецца даеньнем малака. Падчас даеньня ня можна даваць карове есьці, выдаенае малако ад кароў здаровых ня можна мяшаць з малаком ад кароў западазроных ані тымбольш ад кароў хворых. Хваробу-ж у хлявох пераносяць і ўтрымоўвуюць мухі; таму мух трэба няміласэрна і плянова губіць.

# Ці варта гадаваць козы

Ужо па самым толькі прачытаньні гэтага загалоўку можна бачыць вясёлую ўсьмешку на твары тых, хто за гэта ўзяўся.

— Што? Каза? Ды гэта сьмех...

Ці сьмех ці ня сьмех, — пакіньма тымчасам гэта на пасьля. А тымчасам хвілінка ўвагі, хоць-бы на тое, каб сказаць сваё слова аб казе, прачытаўшы гэтых пару радкоў.

Як-бы ня было, а кожны згодзіцца, што сялянская нівка ўсё вузее і вузее. Там, дзе 30 год таму яшчэ стаяла адна хатка, там сягоньня стаяць дзьве, а то і больш. А што будзе за другія гадоў паўкапы? Прызнае хіба кожны, што на вузкай ніўцы што раз цяжэй пракарміць карову, а малако ж гэта артыкул першай патрэбы. У гэткіх вось **батрацкіх** перад усім гаспадарачках каза й ёсьць незамянімым стварэньнем.

Але ня толькі ў батрацкіх. Прыгледзьмося да справы бліжэй. Каза ёсьць найбольш малочным стварэньнем, яна дае ў год ў 10, а то й больш разоў малака чым сама важа. І гэта тады, калі карова ледзь-ня-ледзь дасьць малака ў 5—6 разоў больш, чым сама важа. І гэта тады, калі добрая карова за год зьесьць сем раз гэтулькі, колькі за гэты час зьесьць каза. Дадаць трэба, што казячае малако, хто да яго прывыкне, больш пажыўнае чым малако каравячае. Клустасьці бывае ў ім да 6 працэнтаў і разьбіта яна на вельмі дробненькія кулькі. Асабліва цэнна казячае малако для людзей хворых на сухоты ці толькі маючых да сухотаў нахіл: каза блізу ніколі на сухоты не хварэе і таму ейнае малако ад гэтай хваробы бясьпечнае. А ў кароў бывае ўсяляк.

Ужо адно гэта паказвае, што вартасьць казы дзеля самага ўжо хоць-бы малака ня так ужо сьмеху годная. А зазначма, што акрамя малака каза можа быць карысна і тым, што маладыя казьляты даюць мяса нікольні ня горшае ад ягнячага. Мяса-ж козаў (аб казлох не гаворым!) бывае лыкаватым і цьвёрдым. Урэшце казіная скура йдзе на ўсякія дарагія гэтак званыя беласкурныя вырабы, як дамскія торбачкі, торбы (партфэлі) і скрынкі падарожныя, партманоўкі і іншыя.

Урэшце вельмі важным ёсьць казіны гной, якога ў год каза дае каля

1,000 (тысячы) кілёграмаў. Гной гэты вельмі цэнны, бо мае ў сабе шмат азоту і фосфару — патрэбных пад агародніну. Акрамя зьмястоўнасьці кармовай, цэнны казіны гной тым, што запахам сваім выганяе з агароду кратоў.

І пры ўсім гэтым каза вельмі танная ў сваіх запатрэбаваньнях на пашу; яна здаволіцца адною трыццатаю часьцю свае вагі добрага сена, каля 2 кілёграмаў акопнінаў і 30—40 дэка (фунт) сытнай пашы (абмешкі). Акрамя таго каза вельмі ахвотна зьядае ўсякія кухонныя адпадкі, сушаныя і зялёныя галінкі ўсякіх дрэваў і кустоў. Усё гэта павінна быць аднак сьвежае, чыстае, ні ў якім выпадку ня сьмее быць зьмерзлым, стухлым ці сапрэўшым.

З прымяшчэньнем для казы хлопат малы, даволі для гэтага двух-трох квадратных мэтраў. Памяшчэньне такое павінна мець добрую вэнтыляцыю, але ня сьмее там быць скразьнякоў. Калі хто мае больш козаў, дык іх трэба трымаць у асобных для кожнай загарадцы; асобная — большая — загарадка патрэбна для казянят, каб мелі месца паскакаць і зусім асобная загародка павінна быць для казла.

Корм падаецца казе ў жлабе, які спераду павінен быць аддзелены драбінкай. Усю загарадку і хлявушок казіны трэба ўтрымоўваць чыста: часта чысьціць і бяліць вапнай з дадаткам крэоліны.

Удача і здаваленьне з гадоўлі козаў у значнай меры залежа ад таго, які матар'ял быў выбраны да гадоўлі. Да расплоду-ж можна браць толькі козаў, якія кончылі адзін год. Другім варункам удачы гадоўлі козаў ёсьць чыстатанагул і асабліва пры даеньні*). Поўсьць капыты казіныя трэба штодзень чысьціць; поўсьць акрамя таго штодзень трэба расчэсываць, а рог на капытках, як толькі адрасьце, зараз-жа абрэзываць, бо тут трымаецца сьмярдзючы бруд.

Вот гэта й ёсьць найгалаўнешыя хлопаты пры гадаваньні козаў. Варты яны тых карысьцяў, якія з сабой прыносяць. І таму сьмяяцца над гадоўляй козаў можа толькі чалавек нясьведамы.

*Ю. Ш.*

*) вымя пры даеньні абмываць ня першым здоеным малаком, але толькі чыстай вадой!

*ВЭТЭРЫНАРЫЯ*

# Дагляд хатняе жывёлы

Ведама, што кажная хвароба мае свае прычыны, аб якіх трэба старацца па меры магчымасьці памятаць і іх высьцерагацца. Важна гэта асабліва нам Беларусам — людзям, каторыя займаюцца земляробствам і жывёлагадоўляй. Трэба, каб кажны гаспадар, ня гледзячы на вонкавыя варункі, вырабіў у сабе сталасьць і пэўнасьць, каторыя памогуць перамагчы ўсё на пагляд немагчымае ў ягоным жыцьці.

Ніжэй падаю некаторыя прычыны хвароб і апісаньне самых хваробаў хатняе жывёлы, каторых трэба высьцерагацца.

*Наровістасьць* — гэта рэзультат няўмелых і грубых адносінаў да жывёліны пры першым навучаньні яго якойнебудзь працы, вялікае болі абдзёртай, абмулянай ці наагул ушкоджанай скуры і кепска дапасаванае вупражы.

*Панос* (ськівданьне) — гэта рэзультат перамены корму, вельмі скорага пераходу к зялёнаму корму і к выганам, а так-жа вадзяністага прэснага корму.

*Колькі* (мышкі) — гэта боль жывата найчасьцей у коняў, хвароба, якая вельмі часта спатыкаецца на вёсцы і наносіць шкоду гаспадару. Каб яе высьцерагчыся, трэба трымацца наступных правілаў.

I. Кантроля над штодзеннай порцыяй корму — гэта значыць не даваць вельмі многа корму, каторы выклікае колькі, як малады і сплясьнелы авёс, жыта, гнілая бульба, корм заняячышчаны пяском, салома з падсьцілкі і г. д.

II. Пераход з аднаго гатунку корму на другі павінен быць паступовы (не раптоўны) і трываць праз 8—14 дзён. Новыя гатункі корму павінны прымешвацца з дня на дзень усё болей да корму, каторы быў падаваны раней. Напрыклад пераход ад старога сена і аўса да новага. К зялёнаму корму спачатку трэба прымешваць шмат сечкі,

III. За лішне жыркімі конямі павінен быць асаблівы дагляд; напрыклад, калі конь абкормліваецца саломай з падсьцілкі, дык галаву ягоную трэба высака прывязаць.

IV. Коні спацеўшыя і разагрэтыя ня можна паіць халоднай вадой. Але таксама ня трэба коняў лішне «далікаціць,» зачыняючы заўсёды шчыльна дзьверы ў хлявох, або вельмі часта накрываючы іх усякімі гунькамі, дзяругамі і г. д.

V. Чыстата хлява, асабліва ясьляў, цэбраў, вёдраў, а таксама і сьценаў, бо на іх знаходзяцца плесьні і грыбкі, ад каторых пасьля прыходзяць колькі.

VI. Вада павінна быць чыстая і з гэтай прычыны калодзезь (студня) мусіць быць ачышчаны.

VII. Там, дзе спатыкаюцца глісты (чарвякі белыя), не даваць коням бруднае вады з лужын і ня пускаць на мокрыя і балоцістыя выганы.

*Макрэц у коняў* — запаленьне скуры на путавых суставах пярэдніх і задніх ног. Прычыны яго мэханічныя: пута, гразь, пыл; хімічныя: вапенны пыл і зялёнае мыла. А найбольш небясьпечнымі зьяўляюцца бактэрыі і паразіты скуры.

## Найчасьцейшыя хваробы хатняе жывёлы

*Вострае апушваньне (уздуцьцё) жывата ў кароў і авечак (Meteorismus acutus ruminis).* Гэтую хваробу пазнаць ня трудна. Карову, або авечку так апушвае, што жывот напоўнены газамі расшыраецца і выпаўняе сьпярша пахвіну з левага боку, а пасьля і з правага. Сьпярша карова стаіць спакойна. Калі аднак яе не ратаваць, дык газаў у жываце зьбіраецца больш, яны націскаюць на лёгкія і карова пачынае непакоіцца. Выступіць душнасьць; вельмі частае дыханьне,рот адчынены, язык высунены, выступаюць поты, ногі і вушы становяцца халодныя. Пасьля наступае ўтрата прытомнасьці, жывёла валіцца на зямлю і наступае сьмерць з удушэньня.

*Прычыны*: Сачысты корм, каторага карова шмат зьядае. Папершае маладая трава, як лыга, люцэрна, чырвоная канюшына з расой, шмат, асабліва нясьвежага лісьця бурачанага ці капусьцянага, бульбоўнік, а ў цялят спатыкаецца нават, калі вып'е зашмат малака. Частай прычынай колькаў зьяўляюцца так-жа зрошаныя і зьмёрзлыя расьціны (вельмі лёгка фэрмэнтуюць), далей — вялая трава, каторая ляжыць у копах 1—2 дні, гнілыя або зьмерзлыя буракі і бульба,— найчасьцей у кароў галодных, якія тады зашмат ядуць, а слабы жывот ня можа іх пераварыць.

*Дагляд і лячэньне:* Трэба высьцерагацца ўсіх вышэй названых прычын. Вільготнага і падазронага корму даваць трэба толькі малую порцыю, падмешваючы сухі корм, як сечка. Пераход ад сухога корму к зялёнаму мусіць быць пaступовы, праз 14 дзён. Корм, каторы быў пад інеем і дажджом, трэба перасушыць. Пасьля зялёнага корму адразу ня можна даваць вады.

Лячыць хворую карову трэба гэтак:

1) Як найчасьцей выцягваць апушанай жывёле язык з роту: гэтым спосабам выклікаем адрыжку,у часе каторай газы адыходзяць з жывата. 2) Перавяслам, намазаным дзёгцем, або каламазьзю закелзаць карову: гэтым спосабам выдзяляецца шмат сьліны, каторую карова глытае — і ў часе гэтага глытаньня адчыняецца ўваход з горла да жывата і газы выходзяць. 3) Карову паставіць так, каб перад ейны быў вышэй чым зад, і паліваць сьцюдзёнай вадой, адначасна рабіць раўнамерныя масажы (уціскі) ў левай пахвіне. Вада халодная пабуджае да руху жывот, а ўціскі (масажы) памагаюць пры выходжаньні газаў. 4) Калі ёсьць сонда (трубка), дык трэба яе добра змазаць алеем, або якім другім тлушчам і асьцярожна ўвясьці праз горла ў жывот. Пры гэтым карова мусіць стаяць перадам вышэй чым задам. Газы выходзяць праз сонду. 5) Трокар ужываецца ў найгоршым выпадку. Убіваецца ён у левую пахвіну, кіруючы вастрыём на правы локаць: наперад, уніз і направа — пры гэтым газаў выпускаць адразу ня можна. Бываюць цяжкія выпадкі, што і трокар не паможа, тады карову трэба дарэзаць.

З лякарстваў найлепей даваць: а) ваду вапенную; б) разьведзены аманьяк (толькі 1—2 лыжкі на палову літра вады); в) сольны квас (1 лыжка

## Спэкуляваныя яйкі

Гэтак называюцца яйкі, каторыя гаспадыня перахоўвуе з лета, калі яны бываюць вельмі танныя, на іншую пару, калі з прычыны большага запатрэбаваньня, бываюць значна даражэйшыя.

Уся справа ў тым, ці гэта перахоўваньне бывае ўмелае. Звычайна яйкі трымаюцца ў хаце, у каторай людзі ня толькі сьпяць, але й вараць страву, а здараецца, што нават трымаюць там яшчэ і якуюсь жывёлу. Можна сабе прадставіць, якое там паветра. На дадатак у гнёздах, у каторыя куры кладуць яйкі, салома не зьмяняецца цэлымі месяцамі, ад чаго яйкі зразу брудзяцца. Дзеля таго што гаспадыня з практыкі ведае, што на рынку за запэцканыя яйкі плацяць менш, стараецца іх абмыць вадой. Гэтак змываецца з яйка вельмі тоненькая васковая пакрыўка, якая спавівала ўсё мноства голым вокам нябачаных у яечнай шкарупе дзірачак, скрозь каторыя пасьля гэтага дастаецца ў нутро яйка тухлае і нават смуроднае паветра і водная пара. Акрамя таго яйко гэткае пачынае высыхаць; праціў сьвятла ў такім яйку ясна можна бачыць, што пузырок паветра, які павінен быць вельмі малы, становіцца большым ў 4—5 разоў, а здараецца, што нікне гэтак цэлая палавіна яйка. Ня трэба дадаваць, што смак і запах гэткага яйка часта бывае вельмі няпрыемны. Старое яйко лёгка пазнаць: устрасануўшы яго чуем выразнае болтаньне („балтуны"), чаго ў сьвежым яйку няма. Натуральна, што і вага гэткага яйка вельмі абніжаецца, а ведама, што цяпер у гуртовым гандлі купляюць і прадаюць яйкі ў нас толькі на вагу. У аканчальным рэзультаце гаспадыня за гэткі „спэкуляваны" тавар нават у сьнежні атрымоўвуе гэтулькі, колькі магла-б атрымаць за сьвежы тавар улетку. Словам, ня варта скурка вырабкі.

Каб гэткіх стратаў ня было, трэба яйкі перахоўваць умела. Наўперад, у гнязьдзе трэба часта зьмяняць салому: яйко тады будзе чыстым і яго ня трэба будзе мыць. Ненарушаная васковая павалока на яечнай скарупе не пазволіць так-жа яйку высыхаць. Пры месцы ўспомнім, што мытыя яйкі ня прыймаюцца на вываз заграніцу і таму за іх менш плацяць.

Выбраныя з гнязда яйкі трэба перахоўваць у сухім правеўным месцы: гэтак яйкі не набіраюць тухлага запаху. Памешканьне, дзе перахоўвуюцца яйкі, не павінна быць за цёплае, каб яйко ня высыхала; ня можна так-жа трымаць яйкі і ў зімне, бо ад марозу палопаюць. Добра перахоўвуюцца яйкі ў кошыку ці скрынцы, перасыпаныя сечкай.

Як бачым, дзеля добрага перахоўваньня яёк патрэбны два варункі: **чысьціня ў гнязьдзе і адпаведнае памяшчэньне.** Гэтак яйкі могуць ляжаць ня псуючыся нават даўжэйшы час і бываюць прыгодны да спажыцьця ў стане сырым. Зазначыць пры гэтым трэба, што да выседжваньня даваць пад курыцу можна яйкі найбольш 6 ці ть днёвыя.

Паз.

---

на літр вады—праз гадзіну трэба даць некалькі літраў); г) рэзарцыну (15 грамаў на 1 літр вады); д) крэаліну, фармаліну і газу (нафту) даваць ня можна, бо ў выпадку зарэзу мяса не надаецца да спажываньня. Рэцэпт: Rp Acid. Corbol. liquid. 15,0: Spirit vini 100,0 M D.S. на бутэльку адвару рамона. На 1 раз карове.

(Далейшы цяг глядзі ў „Беларускім Сялянскім Календары" (кніжцы) на бачыне 72-гой).

# Гаспадарская хроніка

**Просім і прыпамінаем.** З тэхнічных прычын ня можна было ў апошнім нумары далучыць разрахунковыя пераказы да ўсіх падпішчыкаў. Робім гэта насягоньня і просім усіх аплаціць нам належную падпіску.

**Куплялі нашыя коні.** З гадоўлі коняў слыве ў нас Ашмяншчына і Мір (Стаўпеччына). Ведаюць аб гэтым у краю, як ведаюць і заграніцай. Дзеля таго заграніца што год купляе ў нас коні як для войска так і для гаспадаркі. Так было й сёлета ўжо колькі разоў. Адна толькі Баўгарыя купляла тут коні сёлета ўжо двойчы: раз улетку, у м-цы ліпні. а другі раз — 14 г. м. Баўгарскія купцы куплялі тут коні і кабылы роджаныя ад 1932 да 1935 г. Узрост каня вымагаўся 150—160 см., а за штуку плацілі каля 750 зл. Агулам 14 г. м. куплена было ў Ашмяне 84 кані, за агульную суму каля 60 тыс. зл.

19 г. м. куплялі коняў для войска ў Міры і для капальняў Заользянскіх — у Ашмяне, Гэтыя апошнія павінны былі быць 150 см. увышкі, коні й кабылы, ад 2 да 4 гадоў; цана ад 350 да 370 зл. Коні вышэйшыя 150 см. цаніліся 450 да 470 зл.

**Зьезд С. Т.О. і K. R.** Саюз польскіх земляробскіх фаховых арганізацыяў, ведамы ў скарочаньні як С. Т. О. і К. R., меў свой зьезд у Варшаве, на якім дня 10 г. м. меў праграмовую прамову міністр земляробства Юл. Панятоўскі. Зьезд займаўся справай прымусовай арганізацыі земляробства, якую намагаецца завесьці О. З. Н. Зьезд рашуча выказаўся процiў такога арганізацыйнага прымусу.

**Дэкрэт аб ахароне Дзяржавы.** У апошніх днях лістапада і ў першых днях сьнежня выданы былі дэкрэты Прэзыдэнта Польскай Рэспублікі, якія датычаць усяго жыцьця ў краю, а знача і жыцьця гаспадарскага. Успомніць тут трэба перад усім аб дэкрэце аб ахароне Дзяржавы. Дэкрэт гэты між інш. востра карае кожнага, хто пашырае фальшывыя весткі аб гаспадарскім жыцьці, зрывае давер да польскай валюты (грошаў), вывозіць заграніцу фальшаваныя тавары і г. д. Востра так-жа караецца, хто заклікае да агульнага штрайку ў фабрыках, або хто заклікае перастаць давозіць прадукты з вёскі ў горад.

Важныя так-жа дэкрэты: прэсавы (з 28.XI) і г. зв. дэкрэт антымасонскі. Дэкрэт прэсавы, паміма абвастрэньня адказнасьці рэдактароў і выдаўцоў газэт і часапісаў, увёў яшчэ цэлы рад дагэтуль не практыкаваных наказаў; напр. усе няпольскія, а гэтым самым і беларускія, выдавецтвы павінны заўсяды падаваць імёны рэдактароў і выдаўцоў, а так-жа фірму друкарскую у мове польскай.

**Камасацыя ў мінулым, сяньня і ў будучыні.** Плян працаў комасацыйных для цэлай Польшчы на 1937/38 бюджэтны год прадбачыў правядзеньне хутарызацыі ў 2 525 мясцовасьцях, якія абыймаюць у сабе 1.657.000 га, зямлі ў 280 тыс. гаспадарак. Закончана ў гэтым часе комасацыя ў 873 мясцовасьцях, на абшары 450 тыс. га у 93 тыс. гаспадарак.

Паводле пляну на 1938-39 г. прадбачыцца скомасаваньне каля 2 мільёнаў га, у 345 тыс. гаспадарак у 2.956 мясцовасьцях. — Агулам ад 1919 г. да 1 ліпня 1938 г. усяго скомасавана каля 5 мільёнаў у 809.000 гаспадарках разьмешчаных у 9 759 мясцовасьцях. Найбольш комасуюцца апошнім часам гаспадаркі у цэнтральнай Польшчы і на г. зв. Усходніх Крэсах (Віленшчына, Наваградчына).

Да скомасаваньня астаецца яшчэ каля 7.200.000 га у 20 тыс. мясцовасьцях на 1.200.000 гаспадарак.

**«Садоўніцкая Чытанка»,** якая друкавалася ў „Самапомачы" праз 10 нумароў, выйдзе з друку ў канцы гэтага месяца як асобная кніжка. Дастаць яе можна ў Бел. Кнігарні „Папоня", Завальная 1.

# Зьмест „Самапомачы“ за 1938 год

## I. Эканоміка, аграрная палітыка і законазнаўства



## II. Польная гаспадарка, угнаеньне, шкоднікі.



## III. Жывёлагадоўля, паша.



## IV. Агародніцтва і садаводзтва.



## V. Пчалярства.

Pierasyłka apłačana ryčałtam







„Самапомач" выходзіць раз на месяц
ПАДПІСКА на „Самапомач": на год — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год за 5 штук 10 зл., а за 10 шт. — 15 зл. Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам" на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Завальная 1. Рэдакцыя адчынена штодзень ад гадз. 13 да 15.

Redaktor Inż. A. KLIMOWICZ — Wydawca: „BIEŁPRES"
Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ. — Выдавец: „БЕЛПРЭС"
Białoruska Drukarnia im. Fr. Skaryny w Wilnie: Zawalna 1.
Беларуская Друкарня ім Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1.

1

Na zł. ............ gr. ......

Imię, nazwisko
i adres wpłacającego:

..............................................

..............................................

..............................................

..............................................

..............................................

Nr. rozrachunku 40

Dzień wpłaty

2

## PRZEKAZ ROZRACHUNKOWY

Na zł. ............ gr. ......

złote słowami: ..............................................

.............................................. gr. ......

Odbiorca:

Wydawnictwo
„SAMAPOMACZ"
Wilno, ul. Zawalna 1.

Nr. rozrachunku 40

Nr. wpłaty ..............................

Dzień wpłaty

..............................
(podpis przyjmującego)

Stempel okręgu

3

## DOWÓD NADESŁANIA
PRZEKAZU ROZRACHUNKOWEGO

Na zł. ............ gr. ......

Odbiorca:

Wydawnictwo
„SAMAPOMACZ"
Wilno, ul. Zawalna 1.

Nr. rozrachunku 40

Nr. wpłaty ..............................

..............................
(podpis przyjmującego)

1

Tytuł czasopisma: „SAMAPOMAČ".

Okres prenumeraty: ..........

Adres odbiorcy czasopisma: ..........

2

Nr. listy rozrachunkowej

wpisał ..........

sprawdził ..........

UWAGA: Wszelka korespodencja, zamieszczona na 1-szym odcinku, poza wskazówkami wedle treści nadruków podlega opłacie przez naklejenie znaczka pocztowego w wysokości opłaty taryfowej.

3

Nr. listy rozrachunkowej

Dzień nadesłania

..........

(podpis sprawdzającego)